www.nv-online.info

№ 32 (4181)

21 красавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля



СТАЛА ВЯДОМА

## Эрнест Аляксееў – за кратамі

Бізнесмен Э.Аляксееў – галоўны пастаўшчык беларускай тэхнікі (грузавой, пасажырскай і спецтэхнікі МАЗа, “Амкадора”) у Туркменістан.

Цяпер на яго Генеральнай пракуратурай Рэспублікі Беларусь заведзена справа па ч.2 арт.216 Крымінальнага кодэкса (прычыненне маёмаснай шкоды без прыкмет крадзяжу).



*2014 год. Э.Аляксееў паказвае і расказвае тагачаснаму прэм’ер-міністру Беларусі М.Мясніковічу, як будзе выглядаць цэнтр па абслугоўванні беларускай тэхнікі ў Ашхабадзе.*

Фота tut.by.

ТЭМА ДНЯ

## Пытанню нацыянальнай бяспекі – асаблівая ўвага

*Сёння Аляксандр Лукашэнка звернецца са штогадовым пасланнем да беларускага народа і Нацыянальнага сходу. Прамую трансляцыю з Авальнай залы Дома ўрада будуць весці тэлеканалы «Беларусь 1» і «Беларусь 24», а таксама Першы нацыянальны канал Беларускага радыё. Пачнецца яна ў 10.00.*

У сувязі з гэтым мы не маглі ўчора не патэлефанаваць прэс-сакратару прэзідэнта **Наталлі Эйсмант**.

– Работа над пасланнем будзе працягвацца фактычна да пачатку мерапрыемства, – раскрыла яна некаторыя сакрэты падрыхтоўкі да важнейшага мерапрыемства. – Зараз над тэкстам выступлення працуе сам кіраўнік дзяржавы.

Пасланне прэзідэнта беларускаму народу і парламенту – канстытуцыйны абавязак. Безумоўна, у сваім выступленні кіраўнік дзяржавы закране ўсе асноўныя аспекты нашай жыццядзейнасці, самыя актуальныя тэмы: эканоміку, сацыяльную сферу (ахову здароўя, адукацыю), далейшае развіццё краіны. Будуць расстаўлены прыярытэты. Нацыянальная бяспека – гэтае пытанне найбольш актуалізуецца ў апошні час, і яму, безумоўна, будзе нададзена асаблівая ўвага.

**– Скажыце чэсна: прэс-служба просіць дэпутатаў прысылаць свае пытанні загадзя?**

– Ні разу не было такога, каб прэс-служба бачыла ці ведала тэмы будучых пытанняў. У зале прысутнічаюць сур’ёзныя людзі...

**– Ці будзе весціся прамая трансляцыя адказаў на пытанні? У мінулым годзе яе спынілі адразу ж пасля выступлення Аляксандра Лукашэнкі...**

– Рашэнне будзем прымаць па ходу. Але, безумоўна, самыя цікавыя пытанні і адказы на іх прагучаць у вячэрняй тэлеверсіі на беларускіх каналах.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

## Спецпраект

### АД ЧАРНОБЫЛЯ – ДА АСТРАЎЦА...



Чытайце на стар. 3–4.

ДЫЯЛОГ

## Дзеля паразумення

На пачатку красавіка актывісты Слонімскага аб’яднання дэмакратычных сіл звярнуліся з адкрытым пісьмом да старшыні райвыканкама Алега Таргонскага з прапановай сесці за “круглы стол” і разам абмеркаваць сур’ёзныя праблемы, якія ўзніклі ў рэгіёне.

І вось пазаўчора такі дыялог адбыўся. Прадстаўнікі мясцовай вертыкалі, кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, прыватных фірм і грамадскіх аб’яднанняў разам з актывістамі дэмакратычных структур абмеркавалі сацыяльна-эканамічную сітуацыю, якая склалася ў раёне, асабліва на рынку працы і ў сферы падаткаабкладання.

**Ганна ХУРСЕНКА.**

НАДВОР’Е

## Вецер, мокры снег...

*Аранжавы ўзровень небяспекі аб’яўлены ў Беларусі на 21 і 22 красавіка з-за моцнага ветру.*

Як паведамляюць сіноптыкі, сёння на большай частцы тэрыторыі краіны чакаецца ўзмацненне заходняга ветру парывамі да 15–20 м/с. Удзень будзе +4...+10°С, па поўдні – да +12°С.

У суботу ў многіх раёнах Беларусі пройдуць кароткачасовыя дажджы, удзень па паўночным захадзе – з мокрым снегам. Тэмпература паветра ўначы складзе +1...+6°С, удзень +4...+11°С.

ЗВАРОТНЫ ХОД

## Дэкрэтны адпачынак, службу ў войску і вучобу ў ВНУ ўключыць у страхавы стаж!

Менавіта з такой ініцыятывай выступілі дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і накіравалі адпаведныя прапановы па змяненні заканадаўства ў Савет міністраў.

– *Мы неаднаразова падкрэслівалі, што выключэнне гэтых трох перыядаў са страхавога стажу, які дае права на прызначэнне працоўнай пенсіі, не зусім апраўдана,* – заявіла журналістам старшыня пастаяннай камісіі па працы і сацыяльных пытаннях Палаты прадстаўнікоў **Тамара Красоўская**. – *Калі мінімальная планка складала 5–10 гадоў, дадзеная праблема не стаяла так востра. Аднак сёння беларусам патрабуецца адпрацаваць з выплатай страхавых узносаў 16 гадоў, а да 2025 года паказчык і зусім дасягне 20 гадоў. Пагадзіцеся, перыяд салідны.*

– *Выключаючы са страхавога стажу дэкрэтны адпачынак, па сутнасці, мы заганяем жанчыну ў сітуацыю, калі яна ў лепшым выпадку народзіць адно дзіця,* – гэта меркаванне старшыні Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы **Ігара Марзалюка.** – *Пра якую дэмаграфічную бяспеку можна ў такім выпадку казаць? Не залічваючы службу ў войску, падштурхоўваем маладых людзей да ўхілення ад выканання свяшчэннага абавязку перад Радзімай. Наносім страты іміджу Узброеных сіл, а значыць, і абараназдольнасці краіны.*

Як вядома, яшчэ нядаўна ў Беларусі дастаткова было 5 гадоў плаціць унёскі у Фонд сацыяльнай абароны, каб атрымаць у будучыні працоўную пенсію, але затым на працягу года ўказамі А.Лукашэнкі (у снежні 2014-га і ў снежні 2015-га) страхавы стаж быў сур’ёзна павялічаны. Прычым з яго выключылі службу ў арміі, дэкрэтны адпачынак, вучобу ў ВНУ, каледжы. А вось зараз загаварылі аб тым, што гэтыя перыяды варта ўключыць (чытай: вярнуць). І, між іншым, дэпутаты не адзіныя, хто ўзнімае гэту праблему. Спачатку з такой ініцыятывай выступалі няўрадавыя арганізацыі. Напрыклад, Беларускі Хельсінкскі камітэт, які настойваў на тым, што павелічэнне страхавога стажу ўвогуле адбылося незаконна: змены ў пенсіённае заканадаўства можа ўносіць толькі парламент, а не прэзідэнт сваімі ўказамі. Абуралася грамадскасць. У сакавіку гэтага года Федэрацыя прафсаюзаў прапанавала перагледзець страхавы стаж для жанчын, якія выхоўваюць чацвярых і больш дзяцей, для бацькоў дзяцей-інвалідаў і былых вайскоўцаў, выслуга якіх на момант звальнення са службы складала менш за 20 гадоў. ФПБ свае прапановы накіравала ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. У сваю чаргу, у Мінпрацы неаднаразова заяўлялі, што для некаторых беларусаў страхавы стаж можа быць перагледжаны.

Здаецца, застаўся апошні крок...

ДАРЭЧЫ

### Пенсія, меншая за бюджэт пражытачнага мінімуму

Сёння ў Беларусі тым, каму не хапае страхавога стажу для атрымання працоўнай пенсіі, прызначаецца сацыяльная. Прычым мужчынам з 65-гадовага ўзросту, жанчынам – з 60-гадовага. Памер сацыяльнай пенсіі вельмі сціплы – 80 працэнтаў ад бюджэту пражытачнага мінімуму. З 1 лютага гэта складае 144 рублі. Паспрабуй пражыві.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРЭС-ТУР

## Тое, што тады адбывалася, вельмі нагадвала вайну...

*Жыхар Хойнікаў Мікалай Міхайлоўскі – ліквідатар наступстваў на Чарнобыльскай АЭС. Афіцыйнага статусу «ліквідатар» у Беларусі даўно няма. Аднак немагчыма знішчыць людскую памяць – падзеі вясны 1986 года Мікалай Мікалаевіч узгадвае, быццам гэта здарылася ўчора.*



У краязнаўчым музеі Хойнікаў чарнобыльскай трагедыі адведзена цэлая зала. Гэта дакументы, фатаграфіі, прыборы для вымярэння радыяцыі, касцюмы і іншыя прадметы таго часу. З Мікалаем Міхайлоўскім мы сустрэліся менавіта тут.

Да красавіка 1986 года ён працаваў пажарным на нафтаперапрацоўчым заводзе ў Мазыры.

– *Як выратавальнік я быў накіраваны ў месцы, якія пацярпелі ад выбуху на Чарнобыльскай станцыі,* – успамінае Мікалай Мікалаевіч. – *Неслі службу на тарфяніках, у лясах, у вёсках.*

*Я не быў на вайне, але тое, што адбывалася тады, вельмі яе нагадвала: слёзы людзей, якія не хацелі выязджаць, верталёты, пакінутыя сабакі, збудаванні, тэхніка...*

Маладыя ратавальнікі павінны былі прадухіляць узгаранні на забруджаных тэрыторыях. Пры пажарах у разы павялічваецца радыяцыйны фон. Тушыць ачагі за сезон даводзілася не адзін раз.

– *На меры бяспекі на забруджаных участках у той час ніхто не звяртаў увагі,* – распавядае ліквідатар. – *Мы былі маладыя, паступіла каманда – і наперад. Тады ж пра наступствы ўздзеяння радыяцыі мала што было вядома.*

Нягледзячы на трагедыю, знаходзіліся людзі, якія, карыстаючыся ўсеагульнай панікай і блытанінай, займаліся марадзёрствам.

– *Гэта цяпер там ужо няма чаго браць, бо ўсё пахавана,* – кажа мясцовы жыхар, – а тады ж усё заставалася на месцах.

Як гаворыцца, не было б шчасця, ды няшчасце памагло. Прыбыўшы ў Брагінскі раён на ліквідацыю наступстваў аварыі, Мікалай Міхайлоўскі ў маі 1986 года пазнаёміўся з будучай жонкай. Зараз у сям’і двое дзяцей і трое ўнукаў.

Мікалай Міхайлоўскі ўжо на пенсіі. Стрымана прызнаецца, што ёсць праблемы са здароўем: служба ў забруджаных радыяцыяй месцах бясследна не прайшла.

– *Раней была магчымасць бясплатна ездзіць у санаторый,* – кажа аб скасаваных чарнобыльскіх ільготах Мікалай Мікалаевіч. – *А зараз статус ліквідатара заменены на статус пацярпелага, а гэта не адно і тое ж. А льготы раней былі добрыя: і медыкаменты бясплатныя, і зніжка 50 працэнтаў на аплату камунальных паслуг...*

*Крыўдна, што адмянілі льготы, але, мабыць, такая неабходнасць. У нашых раёнах кожны другі быў ліквідатарам. Усіх не забяспечыш...*

Паводле слоў былога пажарнага, сёння ёсць магчымасць бясплатна абследавацца ў Навукова-практычным цэнтры радыяцыйнай медыцыны і экалогіі чалавека ў Гомелі.

А вось у Хойніках, паводле меркавання нашага суразмоўцы, да якасці медыцынскага абслугоўвання маюцца прэтэнзіі.

– *У Гомелі ёсць медыцынскі цэнтр, дзе прымаюць ліквідатараў,* – кажа Мікалай Міхайлоўскі. – *А ў раённай бальніцы наогул пра нас забыліся. Жонка ідзе на прыём, а там не ведаюць, што рабіць. Даюць накіраванне ў абласную бальніцу, а там пытаюцца: што за ўрач вас глядзеў?*

Не ўсё гладка вырашаецца з працаўладкаваннем.

– *Нават калі і з’яўляюцца вакансіі, то яны нізкааплатныя,* – адкрыта кажа Міхайлоўскі.

У канцы размовы Мікалай Мікалаевіч вяртаецца да тэмы скасаваных ільгот. На яго думку, статус ліквідатара ў краіне трэба аднавіць.

– *Да гэтага, праўда, трэба паставіцца вельмі ўважліва,* – тлумачыць Міхайлоўскі. – *Хтосьці прабыў у зоне адзін дзень, а іншыя ўдзельнічалі ў ліквідацыі 2-3 месяцы, а то і болей. Трэба прынцыпова перагледзець, хто дзе быў і чым займаўся ў той час.*

АФІЦЫЙНА

Жанна ЧАРНЯЎСКАЯ,
намеснік старшыні Хойніцкага райвыканкама:

## «Грошы чарнобыльцаў акумуляваліся ў дзяржаўных праграмах»

– *У тым, што адбылася Чарнобыльская катастрофа, віны Беларусі няма, але з наступствамі нам даводзіцца разбірацца да гэтага часу,* – сказала Жанна Чарняўская. – *Я памятаю той час: было вельмі шмат вайскоўцаў, якія перакрывалі дарогі, каб не вывозілі радыеактыўную маёмасць. Усе рэчы заставаліся ў дамах, а людзі з’язджалі толькі з дакументамі. Спадзяваліся вярнуцца, але даводзілася ўладкоўвацца на новых месцах.*

Сама чыноўніца таксама родам з гэтых мясцін. Распавядае, што бацька наадрэз адмовіўся з’язджаць, заявіўшы, што не хоча адрывацца ад каранёў.

Паводле слоў Жанны Чарняўскай, Беларусь засталася сам-насам з чарнобыльскай бядой, а льготы былі акумуляваны ў дзяржаўных праграмах дапамогі пацярпелым тэрыторыям.

– *У першыя гады былі льготы, але гэта доўжылася нядоўга,* – кажа Жанна Мікалаеўна. – *Не трэба забываць, што дзяржава ўжо рэалізавала чатыры чарнобыльскія праграмы. Напэўна, гэта лепш, чым плаціць асобна кожнаму. Дарэчы, пенсіянеры-ліквідатары ў нас атрымліваюць пенсіі па 900 рублёў.*

Прадстаўніца мясцовай улады патлумачыла, што раённая бальніца не прадугледжвае наяўнасці штату вузкіх спецыялістаў, а накіраванне ў Гомель можа атрымаць кожны, каму трэба. Таксама штогод насельніцтва Хойніцкага раёна праходзіць абавязковую дыспансерызацыю (аналіз крыві, праверка шчытападобнай залозы).

– *У школах і садках дзеці атрымліваюць бясплатнае харчаванне,* – працягвае чыноўніца з Хойнікаў. – *Таксама раз у год дзеці праходзяць праз абавязковае аздараўленне. Напрыканцы сакавіка мы атрымалі два новыя апараты УГД, два школьныя аўтобусы, абсталяванне для падрыхтоўкі ежы закупілі ў тры школы. Гэта ўсё за кошт чарнобыльскіх сродкаў. А пацярпеў не толькі Хойніцкі раён.*

*Таксама ідзе будаўніцтва жылля. І калі б не адбылася акумуляцыя сродкаў, то нешта пабудаваць было б складана. Напэўна, так, людзям крыўдна, але, з іншага боку, ёсць агульны вынік працы.*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

*Хойнікі.*

УСМЕШКА МАСТАКА

У Адзіным дзяржаўным рэестры судовых рашэнняў Украіны апублікавана пастанова Шаўчэнкаўскага раённага суда Кіева, з якой вынікае, што кампетэнтныя органы Беларусі звярнуліся да кіеўскіх калег з просьбай аб аказанні прававой дапамогі па крымінальнай справе, якая ўзбуджана ў Беларусі ў дачыненні да неназванага грамадзяніна па ч.4 артыкула 205 Крымінальнага кодэкса Беларусі (крадзеж у асабліва буйным памеры).

Як вынікае з дакумента, падазроны грамадзянін каля 9 гадзін раніцы 8 студзеня 2017 года, дзейнічаючы наўмысна, з карыслівых меркаванняў таемна выкраў з сейфа ў кабінеце №107 адміністрацыйнага будынка па адрасе: горад Мінск, вуліца Рэвалюцыйная, дом 3, грашовыя сродкі ў памеры 269.150 долараў. Днём таго ж дня ён перасек дзяржаўную мяжу Беларусі і выехаў ва Украіну.

Па адрасе вул.Рэвалюцыйная, 3 месціцца Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі.





**Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.**

